# ПАГОНЯ

Чацвер
16 лістапада 2000 г.
№ 43 (490)
Кошт 70 рублёў


## Правакацыя ўладаў

**Затрыманні і арышты ўдзельнікаў акцыі «Пераменаў!» з'яўляюцца правакацыяй з боку гарадзкіх уладаў.**

Пра гэта гаворыцца ў заяве Гарадзенскай гарадской Рады БНФ «Адраджэньне», распаўсюджанай 15 лістапада. На думку аўтараў заявы, улады горада ўсё часцей выкарыстоўваюць рэпрэсійныя меры для падтрымання існуючага рэжыму, што парушае заканадаўства і правы чалавека, стварае правакацыі ў дачыненні да дэмакратычнай моладзі.

Ул.інф.

## Хто ўзначаліць Саюз палякаў?

**Надзвычайны з'езд грамадскага аб'яднання «Саюз палякаў Беларусі» адбудзецца ў Гродне 18-19 лістапада.**

Падчас з'езду мае быць абраны новы старшыня СПБ. Падрабязна пра сёньняшнюю канфліктную сітуацыю ў Саюзе палякаў Беларусі чытайце на 4-й старонцы нашай газеты.

## Пагаворым пра сям'ю

**Учора ў Абласным метадычным цэнтры народнай творчасці прайшоў «круглы стол» «Узаемадзеянне дзяржаўных органаў і грамадскіх арганізацыяў».**

Арганізатарам стала ГГА «Цэнтр міласэрнасці «Сям'я». У канферэнц-зале цэнтра народнай творчасці сабраліся супрацоўнікі аддзелаў адукацыі аблвыканкама і гарвыканкама, а таксама прадстаўнікі грамадскіх арганізацыяў з Гродна, Менска, Слоніма, юрысты.

Праблема сацыяльнага сіроцтва, што ўзнімалася на «круглым стале», становіцца ўсё больш актуальнай у нашым грамадстве. Наталля Мурынава, спецыялістка па ахове дзяцінства з аблвыканкама, паведаміла, што на пачатак 2000 года на Гарадзеншчыне было 2988 дзяцей-сірот. Сярод прычынаў сацыяльнага сіроцтва - збядненне, алкагалізацыя, падзенне прыярытэту сям'і ў грамадстве.

Ганна Макоўская

## «Тур без падману» падмануў

**Шырока разрэкламаваны канцэрт гурта «Мумій Троль» у Гродне не адбыўся.**

Як паведамілі нам у Гарадзенскай абласной філармоніі, якая выступала арганізатарам канцэрту, адмяніць «МТ» давялося з-за камерцыйнай няўдачы. Гарадзенцы раскупілі білетаў усяго толькі на 2,5 мільёна рублёў, хоць колькасць месцаў у Лядовым палацы дазваляла спадзявацца на 29 мільёнаў.

Канцэрт быў адменены за тры дні да ўстаноўленай даты - у пятніцу. Арганізатары сцвярджаюць, што грошы за білеты ўсім ахвотным вярнулі.

Правал «мумікаў» у Гродне звязваюць з хуткім «наездам» да нас Земфіры. Амаль усе білеты на яе канцэрт, што павінен адбыцца 22 лістапада, ужо прададзеныя. Кошт білетаў на «Z» - ад 8 да 12 тысяч рублёў. Вось такая капрызная гэтая дама - папулярнасць.

Алена Сіневіч

## Згвалцілі ў Alma Mater

**У панядзелак у біялагічным корпусе Гарадзенскага медуніверсітэту невядомы мужчына згвалціў дзьвюх студэнтак.**

Злачынца падпільнаваў дзяўчат у прыбіральні й прымусіў уступіць зь ім у палавую сувязь у вычварэнскай форме.

Ахвяры, 19-гадовыя гарадзенкі, напісалі заявы ў міліцыю. Гвалтаўнік пакуль не выяўлены.

Юлія Дарашкевіч



НАДВОР'Е

17, 18 лістапада - воблачна, з праясненнямі, месцамі - ападкі, вецер паўднёвы, 5-7 м/с. Тэмпература паветра 17, 18 лістапада - уначы +2...+4, удзень +8...+11.

# Моладзь атрымала перамены: суткі ў ізалятары і лаву падсудных...

**12 лістапада а 15-й гадзіне каля 50-ці гарадзенскіх маладзёнаў у рамках агульнарэспубліканскай акцыі «Моладзь патрабуе пераменаў» ладзілі пікет ля Дома сувязі. Праз 15 хвілінаў ад пачатку акцыі былі затрыманыя 14 яе ўдзельнікаў і карэспандэнт газеты «Біржа інфармацыі». Зараз над 12-ю з іх ідуць суды.**



Міліцыянты Аляксандр Вялічка (справа) і Мікола Галаўко (у цэнтры) ушчуваюць лідара маладафронтаўцаў Андрэя Мялешку (злева)

### Напярэдадні

У патрэбны тэрмін (не пазней як за 15 дзён да пачатку акцыі) старшыня гарадзенскага Маладога Фронту Андрусь Мялешка ды намесніца старшыні гарадзенскай Маладой Грамады Святлана Нех падалі заяву ў гарвыканкам на правядзенне пікету а 15-й гадзіне каля Дома сувязі. Гарвыканкам, як заўсёды, дазволіў праводзіць акцыю на амаль бязлюдным месцы, гэтым разам - а 17-й гадзіне ля кінатэатра «Кастрычнік». Цямнець зараз пачынае ужо а 16-й гадзіне. Таму праводзіць пікет, у якім мусілі прыняць удзел непаўналетнія падлеткі ды дзяўчаты, у такі позні час было небяспечна. Моладзь вырашыла сустрэцца там, дзе і планавалася першапачаткова.

Улады таксама рыхтаваліся да да такой хады падзеяў. Ужо за гадзіну да пачатку пікету за кутом будынка Дома сувязі стаялі два міліцэйскія рафікі.

### Затрыманні

У 15.00 сябры Маладога Фронту, Маладой Грамады, Свабоднага Студэнцкага Прафсаюзу, працоўная ды студэнцкая моладзь сталі ў шэраг з плакатамі ды сцягамі. Адразу з'явіліся міліцыянты. Намеснік старшыні Ленінскага РАУС Мікола Галаўко ды капітан міліцыі Аляксандр Вялічка падышлі да Андруся Мялешкі і запатрабавалі «патлумачыць арганізацыю несанкцыянаванага пікету». Я прашу іх прадставіцца для прэсы. *«У машыне мы з вамі прадставімся»*, - адказвае мне Мікола Галаўко.

Святлана Нех, якая прыйшла на дапамогу Андрусю, была запіхнута ў міліцэйскі бусік. За ёю - Андрэй. Далей міліцыянты пацягнулі ў спецыяльна падагнаны аўтобус астатніх удзельнікаў пікету. На расправу з маладзёнамі прыбыло падмацаванне - АМАП.

14 чалавек - усе, хто трымаў плакаты і сцягі, - былі дастаўленыя ў Ленінскі РАУС. Разам з імі трапіў у пастарунак карэспандэнт «Біржы інфармацыі» Дзмітрый Ягораў.

### У пастарунку

Тыя, каму ўдалося пазбегнуць затрымання, пайшлі за сваімі сябрамі пад РАУС.

У сярэдзіну нікога не пускаюць.

- *Колькі чалавек затрымалі?* - пытаецца гарадзенскі журналіст Зміцер Кісель.

- *Колькі ні ёсць - усе нашыя*, - адказвае міліцыянт на ўваходзе.

«Будзем стаяць тры гадзіны (час, адведзены на складанне пратаколаў, - А.С.)» - вырашаем мы.

Мінула гадзіна. Нікога не выпускаюць. Цямнее, мерзнуць ногі. Доўгае чаканне троху цісне на галаву. Пачынаем спяваць беларускія песні - мо нашыя з таго боку кратаў пачуюць. У адказ у РАУСе зачыняюцца вокны. Выходзіць нейкі ў цывільным і ветліва, але настойліва прапануе: *«Спявайце дзе-небудзь у іншым месцы»*. Пазней ад Святланы Нех даведаліся, што маёр, які браў у яе паказанні, казаў: *«Мы іх усіх пералічылі - 30 чалавек. Калі і пасля дзесяці будуць спяваць - усіх затрымаем»*.

Прайшло тры гадзіны. Выпусцілі 11 чалавек: двух непаўналетніх, карэспандэнта ды яшчэ семярых, на якіх склалі пратаколы і далі позвы ў суд. Святлану Нех, Андруся Мялешку «за арганізацыю несанкцыянаванага пікету», Алеся Лашкоўскага ды актывіста Маладой Грамады Андрэя Мельнікава, якія трымалі сцягі БНФ і Маладой Грамады, пакінулі ў ізалятары часовага ўтрымання на суткі да суда.

### Ноч у камеры

**Святлана Нех:**



- Мяне кінулі ў камеру. Я пачала спяваць, чытаць вершы, выкрыкваць антыпрэзідэнцкія лозунгі. Сталі біць нагамі ў сценку. Я працягвала далей. Але пачала адчуваць, што мне кепска - нешта з сэрцам. Стала патрабаваць, каб мне далі лекі ці прынеслі валакардзін з маёй торбачкі. Ніхто не звяртаў увагі. Я страціла прытомнасць і ўпала на падлогу. Мяне палілі вадой, паляскалі па шчоках - і я расплюшчыла вочы. *«Ну вось, бачыш, вочы расплюшчыла - можаш жыць,»* - сказаў міліцыянт і выйшаў. Пасля 12 гадзін падсялілі дзвюх п'яных жанчын. Іх увесь час то ванітавала, то яны высвятлялі між сабою адносіны. Раніцою я заявіла, што абураная проціпраўнымі дзеяннямі міліцыянтаў, іх загадам падпарадкоўвацца не буду і сама нікуды не пайду. Тады мяне схапілі за нагу і пацягнулі па падлозе...

**Алесь Лашкоўскі:**



- Палову ночы я праведў спакойна. А з 4 да 10 раніцы мне не толькі спаць, нават сядзець было немагчыма. Маю камеру затапіла вадою зверху. Са страшэнным насмаркам я вымушаны быў стаяць у вадзе. У мяне і насоўку забралі. Не было нават як высмаркацца. На мае крыкі ў камеру зазірнуў дзяжурны міліцыянт. *«А што я табе зраблю?»* - адказаў ён, калі я звярнуў яго ўвагу на залітую вадой падлогу. - *І, наогул, чаму я павінен табе нешта зрабіць? Хто ты такі?»*

### Судовая расправа

Суды над пікетоўцамі павінны былі адбыцца ў панядзелак. Але ўсе разбіральніцтвы былі перанесеныя на іншыя дні. На судзе ў аўторак Андрусь Мялешка і Святлана Нех запатрабавалі беларуска-рускага перакладчыка. Яго не знайшлося, і суд быў перанесены на 21 лістапада. Рашэнне суда над Вольгай Івановай па абвінавачванні згодна з артыкулам 167(ч.1) «удзел у несанкцыянаваным пікеце» будзе абвешчана таксама 21 лістапада. Сяргей Клімчук ды старшыня Свабоднага Студэнцкага Прафсаюзу Дзяніс Міхальчык паводле таго ж артыкула былі аштрафаваныя суддзём Ерашэвічам на 30 мінімальных заробкаў (сёння гэта 108 000 рублёў). Прадстаўніка БХК Аляксандра Антанюка, які прысутнічаў на працэсах, такія рашэнні суда больш чым здзівілі: *«У адміністратыўным кодэксе няма такога артыкулу, і я да гэтага не чуў, каб у Беларусі дзенебудзь прыцягвалі да адміністрацыйнай адказнасці за ўдзел у несанкцыянаваным пікеце. Закон прадугледжвае адказнасць толькі за арганізацыю такога пікету»*.

Дзвюх студэнтак гістфака, затрыманых на пікеце, у аўторак выклікаў да сябе на асабістую размову дэкан факультэта Іван Крэнь. Ён папярэдзіў студэнтак, што калі суд вынясе рашэнне не на іх карысць, ён будзе рыхтаваць дакументы на іх выключэнне. «Такая пагроза не можа быць здзейснена, - лічыць спадар Антанюк, - для гэтага няма адпаведных нарматыўных актаў. Нельга выключыць з ВНУ за ўдзел у пікеце».

У сераду зранку суддзя Дзмітрый Дземчанка абвясціў рашэнне наконт дзяўчат. Адной з іх вынесена папярэджанне, другой прысуджаны штраф у памеры 20 мінімальных заробкаў. Дэкан гістфаку адразу ж загадаў абедзвюм дзяўчынам з'явіцца ў дэканат з бацькамі.

На чацвер на 16 гадзін быў перанесены суд над Алесем Лашкоўскім. Яго пачалі судзіць у аўторак. Алесь запатрабаваў для сябе перакладчыка. Замест таго, каб задаволіць законнае хадайніцтва падсуднага, суддзя Ерашэвіч пачаў высвятляць - ці сапраўды той не валодае расейскай мовай. Ён перанёс суд на сераду і загадаў Алесю прынесці свой школьны атэстат. У сераду Алесь не стаў адказваць на пытанні суддзі, заявіў, што не разумее яго.

Вынікі судовых распраў мы паведамім у наступным нумары ПАГОНІ.

Алеся Сідлярэвіч

## Палітыка не пры чым

**12 лістапада ўвечары амаль у самым цэнтры Варшавы быў здзейснены бандыцкі напад на машыну амбасадара Беларусі ў Чэхіі Ўладзімера Бельскага. У выніку нападу былі скрадзены аўтамабіль Амбасады «Мэрсэдэс», рэчы і дакументы. Самому амбасадару, які спрабаваў перашкодзіць рабаўнікам, зламалі руку.**

Як паведамілі нам у Амбасадзе Беларусі ў Чэхіі, спадар Бельскі нягледзячы на атрыманае пашкоджанне працягвае працаваць у звыклым рэжыме.

Паводле словаў прэсавага сакратара Галоўнай камэндатуры польскае паліцыі Паўла Бедзяка, праваахоўныя органы праводзяць усе неабходныя для гэтае справы следчыя мерапрыемствы. Павал Бедзяк запэўніў, што рабунак мае выключна крымінальны характар, і казаць пра нейкі палітычны момант тут нельга.

Прэсавы сакратар Галоўнае камэндатуры польскае паліцыі лічыць, што ў справе абрабаваньня амбасадара Бельскага няма нічога дзіўнага. Адпаведна яго ным словам, тыя злачынцы, што сёньня забіраюць «Мэрсэдэс» у амбасадара Беларусі, заўтра скрадуць новы аўтамабіль у жыхара Варшавы, а пасьлязаўтра - у грамадзяніна Нямеччыны. Гэта ёсьць выключна крымінальная злачыннасьць.

У адказ на факт разбойнага нападу на аўтамабіль амбасадара Беларусі ў Чэхіі Ўладзімера Бельскага Беларускае Міністэрства замежных справаў падало польскаму боку афіцыйную ноту пратэсту. Прэсавы сакратар Міністэрства замежных справаў Польшчы Гжегош Дземідовіч адмовіўся даць інфармацыю пра змест і характар гэтае ноты. Пры гэтым ён спасылаўся на тое, што дадзены акт зьяўляецца міждзяржаўным дакументам. Аднак, Гжэгош Дземідовіч заявіў, што Польшча абавязкова адрэагуе на ноту Беларускага боку, трэба толькі дачакацца канчатковых вынікаў сьледзтва.

Павал Мажэйка, з Прагі





# Цемрашальства запанавала ў гарадзенскай міліцыі

**Сённяшняя афіцыйная прапаганда робіць усё магчымае, каб перакруціць навыварат сэнс асноўных каштоўнасцяў жыцця ў грамадстве, падаць брыдоту і хлусню за дабрадзейнасць і праўду.**

Некаторыя людзі, якія не маюць уласнага меркавання, падпарадкоўваюцца не толькі навязваемым правілам паводзінаў, але і сваімі дзеяннямі служаць сілам зла, насілля і маны. Дзеянні гарадзенскай міліцыі першага лістапада супраць людзей, якія паміналі продкаў на Дзень памяці Дзяды, паказваюць, як вялікая хлусня ўцягвае людзей на службу ліхадзейству.

Паважаныя спадары міліцыянты! З якіх часоў і на якіх падставах Вы пачалі лічыць, што памінанне продкаў патрабуе асобага дазволу з боку дзяржавы? У Беларусі заўжды паміналі продкаў, прыбіралі магілы, запальвалі знічкі, замаўлялі паніхіды ў храмах.

Некалі, на жаль, памруць і нашыя сваякі, памрэм і мы. Няўжо Вы лічыце правільным, калі праз колькі дзесяткаў гадоў нашых дзяцей і ўнукаў будуць лупцаваць гумовымі дубінкамі за тое, што яны прыйшлі ўшанаваць нашу памяць? Якая шалёная галава ў РАУС і УУС вырашыла, што памінальная працэсія - гэта шэсце ці дэманстрацыя? Які нелюдзь забараніў шанаваць сваіх дзядоў тым жыхарам нашага горада, якія маюць погляды, адрозныя ад поглядаў «вертыкалі»?

Падумайце над гэтым - вы рабілі брудную справу, а Ён схаваўся за вашымі спінамі і цешыўся з таго, што адзін беларус лупцуе другога.

Спадары міліцыянты, няўжо вы не ў стане зразумець, што наша грамадства наўмысна пазбаўляюць памяці пра сваіх продкаў, пра сваіх герояў і патрыётаў, а навязваюць шанаванне ўсялякіх злодзеяў, усіх гэтых дзяржынскіх, ленінаў з чапаевымі? За што вы лупцавалі прыгожых, інтэлігентных людзей, якія чыталі ля помніка Янку Купалу ягоныя вершы? Вы ж вучылі творы гэтага паэта ў школе, з маленства, настаўнікі казалі вам, што Купала - гонар беларускай нацыі. А вы - рылам аб асфальт...

Складваецца ўражанне, што змаганне з сапраўднымі злачынцамі вам не па сілах, вам больш да спадобы абмацваць дзяўчат у наладаваных «аўтазаках».

Навошта вы палілі бензін, цягаліся па ўсім горадзе за тымі, хто ўскладаў кветкі да крыжоў і памятных дошак? Хто аддаваў вам гэты рэдкі па дэбільнасці загад?

Думаецца, што замест таго, каб на палітзанятках вывучаць усялякую лухту пра ворагаў сінявокай дзяржавы, было б лепей асабоваму складу гарадзенскіх РАУС і афіцэрам УУС абмеркаваць гэты артыкул ПАГОНІ ды даць чытачам падрабязную справаздачу пра тое, як вы збіраецеся ставіцца надалей да маралі і закона.

**Сяргей Самасей**



Хто падняў руку на памяць народа?

# Каму закон ня пісаны?

**9 лістапада адміністратыўны суддзя Ленінскага раёну Ярашэвіч разгледзеў справы Пятра Анісімовіча і Міколы Ворана. Нагадаем: іх у ліку 23-х чалавек гарадзенская міліцыя жорстка і беспадстаўна затрымала за сьвяткаваньне Дзядоў 1 лістапада (гл. ПАГОНЮ N42).**

Пятра Анісімовіча суд цалкам апраўдаў, а з Міколы Ворана спагналі 3600 рублёў - адну мінімалку - за тое, што ён нібыта лаяўся.

*-Як я мог мацюкацца,-абураўся Мікола,-калі стаяў з кветкамі і зьнічкамі ля помніка Янку Купалу і слухаў вершы!*

*- Ён меў банцік на грудзях - сімволіку шэсьця*, - давалі паказаньні старшына Сезень і прапаршчык Хілько. *- Калі ўбачылі нас, стаў лаяцца. Мы прадставіліся, папрасілі прайсьці, а ён стаў супраціўляцца.*

Рашэньне суда ў дачыненьні да Міколы Ворана досыць блытанае і незразумелае: паколькі міліцыянты скарысталі фізічную сілу незаконна, то мацюкаўся Мікола абгрунтавана. Але лаяцца нельга - таму атрымай штраф.

Засталіся без адказу галоўныя пытаньні: «Калі Анісімовіч і Воран невінаватыя, навошта было затрымліваць іх і яшчэ дваццаць аднаго чалавека? Калі дзеяньні міліцыі прызнаныя незаконнымі, чаму пракурор не распачаў супраць іх справу? Чаму старшыня Ленінскага РАУС палкоўнік Васілеўскі да гэтага часу не прынёс прабачэньні за дзеяньні сваіх падначаленых у дачыненьні да людзей, якія ўскладалі кветкі да помніка, а таксама журналістам, якія замест выкананьня сваіх прафесійных абавязкаў дзьве гадзіны вымушаныя былі сядзець у пастарунку? І хто ўвогуле аддаў бязглузды загад хапаць мірных людзей на вуліцы?

**Юлія Дарашкевіч**

# Моладзевы супраціў будзе мець працяг

**Вечарам 12 лістапада менскай міліцыяй былі затрыманыя 112 найбольш актыўных удзельнікаў моладзевай грамадска-палітычнай акцыі «Пераменаў!». Такія звесткі падалі журналістам у прэс-цэнтры галоўнага ўпраўлення ўнутраных справаў Менгарвыканкама. Арганізатары акцыі называюць іншую лічбу – 300 чалавек.**

На праведзенай 13 лістапада прэс-канферэнцыі ініцыятары акцыі заявілі, што беларуская ўлада паўтарыла свае памылкі і дзейнічала па шаблону падзеяў 25 сакавіка, калі было разагнана сьвяткаванне Дня волі.

Паводле звестак стваральнікаў кааліцыі "Пераменаў", акцыя прайшла ў 24 гарадах Беларусі ў выглядзе сходаў, дыскатэкаў, канцэртаў, публічных чытанняў, пікетаў, мітынгаў і шэсцяў. Хаця большасць гэтых акцыяў не была санкцыянаваная, маштабныя затрыманні адбыліся толькі ў Гродне і Менску.

Згодна са словамі лідара «Маладога фронту» Паўла Севярынца, у акцыі ў Менску была задзейнічана значная колькасць работнікаў міліцыі: іх было больш, чым саміх удзельнікаў мерапрыемства. «Рэжым баіцца менавіта моладзі, моладзевага супраціўлення і пераменаў», - зрабіў выснову Севярынец.

Прадстаўнікі кааліцыі «Пераменаў!» маюць намер і далей працягваць масавыя мерапрыемствы.

**Генадзь Барбарыч**

# БНФ шукае ідэальнага прэтэндэнта

**Чацвёртага лістапада ў Менску адбылася канферэнцыя БНФ, на якой абмяркоўвалася пытанне арганізацыі кампаніі па вылучэнні кандыдата на маючых адбыцца ўлетку 2001 года выбарах прэзідэнта Беларусі.**

Было вырашана, што толькі вылучэнне адзінага кандыдата ад блоку дэмакратычных партыяў можа прынесці перамогу на прэзідэнцкіх выбарах. Якім БНФ бачыць адзінага кандыдата? Гэта павінен быць чалавек, які гарантуе незалежнасць краіны, дэмакратызацыю грамадства, правядзенне свабодных парламенцкіх выбараў праз тры месяцы пасля прыняцця прысягі прэзідэнта, усталяванне законнасці і вызваленне палітзняволеных, фармаванне кааліцыйнага ўрада, правядзенне рынкавых рэформаў, падзел функцыяў паміж заканадаўчай, судовай і выканаўчай уладамі, аднаўленне незалежнасці СМІ.

Кандыдат на прэзідэнта, на думку БНФ, павінен мець досвед кіравання, валодаць беларускай мовай, быць верным дадзенаму слову, быць неканфліктным, але цвёрдым у дэмакратычных пераканаццях, камунікабельным чалавекам, мець прэзентабельны выгляд, быць здольным уплываць на дзяржаўны апарат і прымальным як у сталіцы, так і ў рэгіёнах.

БНФ лічыць, што ўсе дэмакратычныя партыі павінны арганізаваць падтрымку адзінага кандыдата, праводзіць масавыя акцыі на ягоную карысць, забяспечыць татальны кантроль за ходам выбараў і дзейнасцю выбарчых камісіяў.

Наконт тэрмінаў заключэння дамовы па вылучэнні адзінага кандыдата ў заяве БНФ не гаворыцца.

**Сяргей Сноп**

# Абіраюць дэмакратычна, але без народа

**14 лістапада скончыўся тэрмін вылучэння кандыдатаў у члены так званага савета рэспублікі. Просты беларускі чалавек да гэтай падзеі аніякага дачынення не мае. Тут усё вырашае вертыкаль. Самых дастойных называюць прэзідыумы мясцовых Саветаў. А каб не памыліліся, крый Божа, заканадаўствам прадугледжаны таксама ўдзел службоўцаў адпаведных выканкамаў.**

На Гарадзеншчыне было ўтворана восем акруг. Напрыклад, акруга №1 у складзе Гарадзенскага і Бераставіцкага раёнаў аднадушна пажадала бачыць сваім прадстаўніком у савеце рэспублікі старшыню аблвыканкама Аляксандра Дубко. Як вырашылі, так і прагаласавалі.

Гэтая палата тэрытарыяльнага прадстаўніцтва будзе дзейнічаць ужо другі раз паводле адпаведных артыкулаў адноўленай прэзідэнцкай Канстытуцыі. У складзе цяперашняга савета рэспублікі Гарадзеншчыну прадстаўляюць: Л.Бахар (Наваградак), Л.Слюсарава (Слонім), М.Кавалёў (Смаргонь), К.Васілючак (Ліда), М.Залуцкі (Ваўкавыск), М.Саковіч (Шчучын), той жа А.Дубко і Я.Штоп (Гродна).

Магчыма, гэта і ёсць лепшыя прадстаўнікі народа. Аднак іх дзейнасць на карысць апошніх не на вышыні, пра што сведчыць наша паўсядзённае жыццё. Не надта вылучэнцы і абраннікі ўлады дзяліліся ўласнымі думкамі нават у дзяржаўных СМІ.

Усё часцей гучаць словы, што савет рэспублікі ў цяперашнім выглядзе не патрэбны. Ён нагадвае дэкаратыўны орган пры кіраўніку дзяржавы. Хіба могуць на адным узроўні вырашаць сацыяльна-эканамічныя і палітычныя праблемы дзяржавы старшыня аблвыканкама і, скажам, спецыяліст ансамбля песні і танца ці дырэктар школы сумесна з кіраўнікамі будаўнічага трэста, прадпрыемства меліярацыі?

Аляксандр Лукашэнка запатрабаваў, каб гэтым разам у савеце рэспублікі было не менш як 30 працэнтаў жанчын. Разнарадка атрымана, яе трэба ажыццяўляць. Паглядзім, як адгукнецца Наднёманскі край.

24 лістапада адбудзецца абласная канферэнцыя прадстаўнікоў базавых саветаў. Савет рэспублікі папоўніцца лепшымі ваеннаслужачымі, настаўнікамі, урачамі, работнікамі культуры і творчай інтэлігенцыі. Прыедуць у Менск, як было пры развітым сацыялізме, аднадушна падымуць рукі, ухваляючы прапанаваныя дакументы, і раз'едуцца дахаты з пачуццём уласнай годнасці і незаменнай карыснасці грамадству.

Думка грамадства, як заўсёды, вертыкальных не цікавіць.

**Уладзімір Кавалёў**



Аляксандр Дубко: заклапочанасць уладай?

ДЫСКУСІЯ

# Каго вылучаць кандыдатам на прэзідэнта?

**Восеньская выбарчая кампанія, названая чынавенствам выбарамі ў нацыянальны парламент, а апазіцыяй - выбарчым фарсам, была толькі рэпетыцыяй перад выбарамі прэзідэнта краіны. І ўлада, і апазіцыя актыўна рыхтуюцца да ўсеагульных прэзідэнцкіх выбараў, якія пройдуць, хутчэй за ўсё, у сярэдзіне ці напрыканцы лета 2001 года. Кандыдат ад улады вядомы - Аляксандр Лукашэнка.**

Хто будзе выяўляць інтарэсы апазіцыі? Не толькі апазіцыі, як групы палітычных дзеячаў, а апазіцыі, як велізарнай колькасці людзей, незадаволеных усеагульнай нішчымніцай, хамствам і свавольствам чыноўнікаў, адсутнасцю перспектывы для людзей працы, іх дзяцей і ўнукаў, - хто будзе здольны забяспечыць інтарэсы шырокага кола грамадзянаў? Прыспеў час даць адказ на гэтае пытанне.

Пры гэтым не можа стацца так, што група апазіцыйных дзеячаў будзе вырашаць гэтае пытанне толькі паміж сабою, шляхам палітычнага гандлю, інтрыг і змоваў з закардоннымі панамі-дабрадзеямі. І ўлада, і апазіцыя абавязкова мусяць пачуць рэальны голас народа. Грамадства болей не павінна разглядацца ў якасці аб'екта PR-аўскіх тэхналогіяў. Грамадская думка сама павінна ўздзейнічаць непасрэдна на тых, хто займаецца палітыкай як прафесіяй, падштурхоўваць іх да правільных рашэнняў.

Гэтым артыкулам ПАГОНЯ распачынае кампанію на выбарах прэзідэнта Беларусі. Гэтая кампанія - не з тых, у якой электарату, нібы пакупніку, навязваецца тавар сумніўнай якасці. Наадварот, рэдакцыя хацела б пачуць думку менавіта звычайных людзей. Думку пра тое, якім яны бачаць кандыдата на пасаду прэзідэнта краіны. Пра тое, што павінен зрабіць новы прэзідэнт у першую чаргу, якую выбраць стратэгію на будучыню. Каго ўзяць сабе ў дапамогу, на каго абаперціся. Якімі рэальнымі і адначасова высакароднымі мэтамі аб'яднаць народ, наблізіць яго да дасягненняў сучаснай цывілізацыі і Боскіх запаветаў.

Рэдакцыя запрашае ўсіх чытачоў да дыскусіі. Вядома, што тыя палітыкі, якія разлічваюць прыняць удзел у прэзідэнцкай выбарчай кампаніі, могуць наўпрост скарыстацца трыбунай ПАГОНІ для размовы з выбаршчыкамі. Так мы створым агульную думку, з якой будуць вымушаныя лічыцца палітыкі ўсіх накірункаў.

Улетку 2001 года будзе вырашацца наш лёс на доўгія гады. Каму аддаць палітычную валюту - выбарчы бюлетэнь? Як дасягнуць чысціні на выбарах? На гэтыя ды іншыя пытанні чакаем Вашых адказаў.

# Жыць будзем цяжка, але нядоўга

**У Беларусі стала менш як 10 мільёнаў жыхароў.**

**Паводле звестак Міністэрства статыстыкі і аналізу, сёлета за восем месяцаў насельніцтва краіны зменшылася на 19,9 тысячы і склала на 1 верасня 9 999,6 тысячы чалавек.**



Так выглядае заслужаная старасць, да якой яшчэ трэба дажыць

Так выглядаюць вынікі натуральнага спаду насельніцтва, які назіраецца ў краіне з 1994 года. За апошнія шэсць гадоў колькасць жыхароў зменшылася больш чым на 300 тысяч. Асноўнымі ягонымі прычынамі з'яўляюцца спад нараджальнасці і рост смяротнасці.

Раней колькасць жыхароў Беларусі змяншалася пераважна ў выніку эпідэміяў (напрыклад, чумы ў 1563-66 гадах) і войнаў. Так, у вайне 1654-1667 гадоў паміж Рэччу Паспалітай, у склад якой уваходзіла Вялікае княства Літоўскае, і Маскоўскай дзяржавай загінулі 53 працэнты насельніцтва Беларусі. Паўночная вайна 1700-1721 гадоў забрала жыцці трэцяй часткі жыхароў. Падчас першай сусветнай вайны былі забіты і памерлі 1 мільён 200 тысяч беларусаў. Сур'ёзныя страты панесла рэспубліка і ў сталінскі перыяд. Так, калі ў 1927-1932 гадах колькасць жыхароў павялічылася на 720 тысяч, то за 1933-1938 гады - толькі на 220 тысяч.

Згодна з гістарычнымі звесткамі, колькасці ў 10 мільёнаў чалавек Беларусь дасягала двойчы - у 1939 і 1986 гадах. У 1939-м дзякуючы далучэнню Заходняй Беларусі да БССР насельніцтва рэспублікі павялічылася да 11 мільёнаў. Але ў 1939-1940 гадах урад СССР перадаў Віленшчыну Літве, у выніку чаго колькасць жыхароў Беларусі зменшылася да 10,5 мільёна. Потым грымнула другая сусветная вайна, якая пахавала каля трох мільёнаў беларусаў і выгнала з родных месцаў яшчэ адзін мільён. У 1945 годзе насельніцтва рэспублікі складала 6 мільёнаў 265 тысяч чалавек. Хуткаму ягонаму павелічэнню садзейнічала рээвакуацыя грамадзянаў, якія выехалі з Беларусі ў гады вайны. У выніку ў 1950 годзе колькасць жыхароў перавысіла 7 700 тысяч. Чарговымі фактарамі, якія абумовілі спад колькасці жыхароў Беларусі, сталі перадача Польшчы Беласточчыны і трох раёнаў Берасцейшчыны, а таксама працоўная міграцыя ў Сібір і Казахстан. З гэтай прычыны ў 1951-1952 гадах колькасць жыхароў Беларусі зменшылася на 88 тысяч, у 1954-м - на 28 тысяч. З таго часу пачаўся працяглы рост насельніцтва рэспублікі, і мяжу ў 8 мільёнаў чалавек беларусы перайшлі ў 1958 годзе, 9 мільёнаў - у 1970-м, 10 мільёнаў - у 1986 годзе.

З 1994 года колькасць жыхароў нашай краіны штогод змяншаецца на 20-40 тысяч. За 1999 год натуральны спад насельніцтва Беларусі склаў 31,1 тысячы чалавек.

**Алесь Князюк**

# Едзьце ў Аўстралію, гэта будзе правільна?

**Паводле сацыялагічных апытаньняў, амаль кожны трэці беларус хацеў бы зьехаць за мяжу. Каля 13 адсоткаў жыхароў Беларусі плянуюць зрабіць гэта ў бліжэйшай будучыні, прычым пяць адсоткаў зь іх хочуць зьехаць з нашай краіны назаўсёды.**

З Беларусі толькі за дзевяць месяцаў бягучага года выехала на сталае месца жыхарства ў іншыя краіны 9677 чалавек, зь іх 7433 чалавекі - беларускія грамадзяне. Як паведамілі ў пашпартна-візавай службе, з Гарадзеншчыны зьяжджаюць меньш за ўсё. За гэты ж тэрмін з нашай вобласьці эмігравалі 632 беларускіх грамадзяніна і 265 чалавек з грамадзянствам СНД ці без грамадзянства наогул. Больш за траціну едзе ў Расейскую Фэдэрацыю, астатнія шукаюць шчасьця пераважна на Украіне, у Нямеччыне ды Ізраілі.

*Ці хацелі б Вы зьехаць зь Беларусі? Калі так, то куды?* - такія пытаньні задавалі мы па тэлефоне гарадзенцам.

<u>**Канстанцін Марушка**</u>**, намесьнік дырэктара Гарадзенскага вучылішча мастацтваў:**

- Ніколі! Апошні той чалавек, які хоча зьехаць са сваёй зямелькі. Жаба ня жаба, калі мяняе сваё балота. На Беларусі самы смачны хлеб, самае тоўстае сала і самыя файныя 150 грамаў самагоначкі. А той сьпірт, што вязуць з Захаду - атрута. І бананы павінны малпы есьці.

<u>**Таццяна Мікіценка**</u>**, студэнтка:**

- Хачу ў Нямеччыну - я там улетку працавала. Спачатку было страшэнна цяжка, але пасьля прызвычаілася. Дый зарабіла столькі, што нашым студэнтам такія грошы й ня сьніліся. Зараз думаю: ці трэба ў ВНУ пяць гадоў мазгі сушыць, каб пасьля ўсё жыцьцё атрымліваць трыццаць баксаў зарobку? За мяжой прыбіральшчыцы і пасудамыйкі ў дзесяткі разоў больш атрымліваюць.

<u>**Валеры Арлоўскі**</u>**, дырэктар акцыянернага таварыства «Гарадзенская абутковая фабрыка «Нёман»:**

- Не, там няма ніякай працы ні сваякоў, ні грошай, каб распачаць сваю ўласную справу.

<u>**Вольга Бабкова**</u>**, хатняя гаспадыня:**

- Куды там! У мяне ж муж, двое дзяцей і старыя бацькі. Канешне, хацелася б пажыць у якой Канадзе, але каму мы там патрэбныя? Ні моваў ня ведаем, ні адукацыі добрай. Малых бы толькі выправіць за мяжу ці вучыцца, ці адпачыць хаця б. Дачка мая за шаснаццаць гадоў за межы Беларусі нават не выяжджала ніколі...

<u>**Мая Чыркова**</u>**, дырэктарка міжнароднага агенцтва «Гіменей»:**

- Не, бо тут ёсьць праца. Я дапамагаю людзям. Я ведаю пра жыцьцё там, таму не ўяўляю сябе ў іншай краіне.

<u>**Анатоль**</u>**, гандлюе парфумай на рынку «Паўднёвы»:**

- Штогод запаўняю грын-карту ў Злучаныя Штаты, але пакуль не пашчасьціла. Мой брат зь сям'ёю там ужо тры гады. Мае працу, практычна ні ў чым сабе не адмаўляе. А мы тут жывем у страху, што нашым дзецям заўтра не будзе што паесьці.

<u>**Уладзімір Хільмановіч**</u>**, старшыня Гарадзенскай філіі Фонду Льва Сапегі:**

- Я меў шчасьце пабываць у ЗША, Італіі, Швэцыі, Даніі, Нямеччыне, Чэхіі. Людзям там вельмі вольна дыхаецца, ёсьць мажлівасьці для самарэалізацыі. Але мяне заўсёды цягне назад, на Беларусь. Тут страшна цікава - невядома толькі, што больш: страшна ці цікава.

**Апытвала**
**Юлія Дарашкевіч**

# Студэнтаў вучаць кіраваць

**15-16 лістапада ў памяшканні Аб'яднання маладых навукоўцаў «Віт» праходзіць семінар па студэнцкаму самакіраванню.**

Ён зарганізаваны Нацыянальным Звязам Студэнтаў Галандыі сумесна з Задзіночаннем Беларускіх Студэнтаў у рамках праекта, скіраванага на падтрымку самакіравання студэнтаў Беларусі.

- Студэнцкае самакіраванне - неад'емная частка навучальных устаноў дэмакратычных краінаў. Дапамагчы нашым студэнтам усвядоміць перавагі і магчымасці дэмакратыі, аб'яднаць незалежныя студэнцкія арганізацыі ды забяспечыць удзел беларускіх студэнтаў у працэсе прыняцця рашэнняў наконт таго, якой мусіць быць установа, дзе яны вучацца - вось галоўныя мэты нашага праекта, - сцвярджае адзін з арганізатараў семінара Сяргей Залеўскі.

Гродна павінен стаць адным з дзесяці гарадоў (Віцебск, Менск, Магілёў, Гомель, Горкі, Берасце, Бабруйск, Наваполацк, Баранавічы), у якіх арганізатары плануюць стварыць ініцыятыўныя групы студэнцкага самакіравання.

У іх ўвойдуць студэнты, якія павінны будуць падрыхтаваць выбары ў Студэнцкую Арганізацыю Самакіравання (САС), распрацаваць яе структуру і займацца рэкламаваннем самакіравання.

У сакавіку ці лютым 2001 года плануецца правесці міжнародную канферэнцыю «Перспектывы Студэнцкага Самакіравання ў Беларускіх Навучальных Установах». А ў красавіку дзесяць самых актыўных удзельнікаў семінараў з вышэйназваных гарадоў паедуць на 2-тыднёвую стажыроўку ў Галандыю. У верасні наступнага года, як мяркуюць арганізатары, у ахопленых праектам ВНУ пачнецца стварэнне ворганаў студэнцкага самакіравання.

**Алеся Сідлярэвіч**

# У цеснаце, ды не ў крыўдзе?

**Ужо каторы год гарадзенцам і гасцям нашага горада даводзіцца выпрабоўваць свае нервы ў час паездак у грамадскім транспарце. Чаму так адбываецца? Сітуацыю каментуе загадчык аддзялення эксплуатацыйнай службы аўтапарка №1 Уладзімір Новік.**

***- Чаму ў гадзіны пік надзвычайная праблема куды-небудзь даехаць. Гэта транспарту мала ці народу шмат?***

- І так, і так. Справа ў тым, што 19 гадоў таму было 115 машынаў і 22 маршруты, а зараз - 97 аўтобусаў і 33 маршруты.

***- Ці нельга, каб у тую ж гадзіну пік можна было пусціць на адзін аўтобус болей, а да абеду менш?***

- Немагчыма. Чаму? Бо раніцою ўсе 97 аўтобусаў у руху (толькі частка на рамонце), затым колькасць памяншаецца да 31, а ў гадзіну пік - зноў павялічваецца да 97. У другую змену з 16 гадзін на лініі - 87 аўтобусаў, а пасля 20 гадзін гэтая лічба не перавышае 50-ці.

***- Ці заўсёды гарадскі транспарт ходзіць паводле раскладу?***

- Скажам так, павінен.

***- Ці супадае рух аўтобусаў са шматлікімі раскладамі, якія можна набыць у кіёсках ці проста ў газетчыкаў?***

- За іх мы адказнасці не нясем. Выдаўцы раскладаў з намі не дамаўляліся.

Уладзімір Новік дадаў, што расклад руху і колькасць аўтобусаў залежыць ад гарвыканкама, дакладней ад яго магчымасцяў і сродкаў. А наконт такой колькасці людзей у гадзіну пік зазначыў, што раней адміністрацыі прадпрыемстваў, фабрыкаў і заводаў, якія месцяцца на лініі тых ці іншых маршрутаў, паведамлялі ў гарвыканкам, калі ў іх перазменкі, а затым вызначаліся колькасць аўтобусаў і гадзіны руху. Зараз гэтага няма, што і ёсць асноўнай прычынаю з'яўлення натоўпаў на прыпынках.

**Вольга Астроўская**

# Праблемаў з газам не будзе

**запэўніла карэспандэнта ПАГОНІ адказная супрацоўніца Гарадзенскага гаргазу Наталля Шчарбук, маючы на ўвазе размеркаванне і дастаўку звадкаванага газу зацікаўленым кліентам у будучым годзе.**

Пасля леташніх перабояў з гэтым папулярным відам паліва былі ўведзеныя ліміты на ягонае спажыванне сяроднасельніцтва - чатыры балоны ў год на сям'ю з аднаго чалавека. Зараз звычайны балон звадкаванага газу каштуе 1.060 рублёў. Для параўнання - у снежні мінулага года кошт балону складаў 285 рублёў. Для тых, хто жадае карыстацца звадкаваным газам звыш уведзеных лімітаў, ён будзе прадавацца па камерцыйных коштах.

Цікава тое, што падчас эканамічнага крызісу ў Беларусі і няпэўнай сітуацыі з дастаўкай прыроднага газу, будуць разбудоўвацца станцыі газазапраўкі для аўтамабілістаў. Але ці заўсёды там можна будзе своечасова заправіцца?

**Ігар Гандлеўскі**

# Дзеці дбаюць пра свае інтарэсы

**Пятнаццаць прадстаўнікоў розных дзіцячых ініцыятываў з Гродна і Гарадзеншчыны бралі ўдзел у Саміце дзяцей Беларусі.**

Саміт праводзіўся ў межах праекту «Глабальны рух у інтарэсах дзяцей», які ладзіўся Беларускай Нацыянальнай Моладзевай Радай пры падтрымцы ЮНІСЭФ.

У 1990 годзе на сусветнай сустрэчы на вышэйшым узроўні дзяржавы свету ўзялі на сябе абавязкі палепшыць становішча дзяцей на працягу наступных 10 гадоў. Цяжка сказаць, што становішча дзяцей у Беларусі значна палепшылася за гэтыя 10 гадоў, што дзеці сталі актыўнай часткай грамадства, што ад іх штосьці залежыць. Але ў 2001 годзе нашай дзяржаве давядзецца прадстаўляць даклад пра становішча дзяцей у краіне на спецыяльнай сесіі Генеральнай Асамблеі ААН.

У Саміце прымалі ўдзел прадстаўнікі дзіцячых ініцыятываў з усёй краіны. Гарадзеншчыну прадстаўлялі Школа дэмакратычнага лідарства, клуб ЮНЕСКА «Прамень», «Взрывная команда графитти» і многія іншыя.

Удзельнікі Саміту абмяркоўвалі праблемы, якія могуць вырашыць іх ініцыятывы, перашкоды ў справе вырашэння гэтых праблемаў. Хлопцы і дзяўчаты сустракаліся з прадстаўнікамі дзяржаўных структураў, грамадскіх арганізацыяў, СМІ, мелі магчымасць задаваць ім пытанні, абмяркоўваць з імі свае праблемы. Чацвёртага лістапада адбыўся «круглы стол» з удзелам прадстаўнікоў заканадаўчай і выканаўчай улады, рэспубліканскіх грамадскіх аб'яднанняў, СМІ, ЮНІСЭФ, прадстаўнікоў ААН. Напрыканцы Саміту былі прынятыя выніковыя дакументы: «Зварот удзельнікаў Саміту дзяцей Беларусі», «Прапановы па вырашэнні праблемаў, адзначаных на Саміце дзяцей Беларусі, у адпаведныя органы кіравання і арганізацыі», «Рэкамендацыі ў Нацыянальны даклад».

Саміт паказаў, што дзеці - гэта важная частка грамадства, поўная цікавых ідэяў і неардынарных шляхоў іх ажыццяўлення. Ім патрэбна падтрымка і дапамога, таму што яны - не толькі наша будучыня, але і наш сённяшні дзень.

**Яўгенія Курбат**

# Клубы яднаюцца

**4-5 лістапада на базе ліцэя N1 г.Гродна прайшоў Восеньскі Фестываль клубаў ЮНЕСКА «Калі сяброўства ёсць, яно назаўсёды».**

Акрамя гарадзенскіх клубаў «БелАЮ»: «Кронан», «Клюв», «Лепрыкон», «Avenir», БСМ, «САЮД», «Юла», «Кіса», «БГМ» у ім удзельнічалі менскія клубы «Ветразь», «Ювента», «ЦНД», берасцейскія - «Шок», «Спадчына» і маладзечанскі - «Касіяпея».

На працягу першага дня адбыліся ўрачыстае адкрыццё фестываля, прэзентацыі візітак клубаў-удзельнікаў, заняткі ў секцыях па сямі асноўных напрамках дзейнасці ЮНЕСКА, сярод якіх: экалогія, лідарства, ВІЧ/СНІД ды іншыя. У другі дзень была праведзена ролевая гульня на тэму «Экалогія і будучыня», удзельнікі якой паспрабавалі знайсці вырашэнні існуючых экалагічных праблемаў. Акрамя гэтага, юнескаўцы мелі магчымасць убачыць гарадзенскія славутасці, паглядзець гала-канцэрт, патанцыць на дыскатэцы.

У нашым горадзе такі праект рэалізуецца ўжо другі раз. Упершыню юнескаўцы збіраліся ўвесну 2000 года. Але мэты сёлетняга фестываля былі больш глабальнымі, скіраванымі на аб'яднанне гарадзенскіх клубаў у «Гарадзенскую абласную асацыяцыю клубаў ЮНЕСКА».

**Валерыя Скорб**



ПЯРЭСТЫ КУТ

# Спорт - вечная любоў

**10 лістапада ў аблвыканкаме адбыўся афіцыйны прыём у гонар алімпійцаў і паралімпійцаў Гарадзеншчыны.**



Яніна Карольчык ды Ігар Басінскі: лёгкая стомленасць ад віншаванняў

Нашых спарцменаў ды іх трэнераў віншавалі ўлады горада і вобласці. Аляксандр Дубко нават прызнаўся: «Спорт - мая першая любоў». За столікамі з пачастункамі - садавінай, цукеркамі, шампанскім - сабраліся больш за 50 шчаслівых пераможцаў - менавіта пераможцамі адчувалі сябе на вечарыне спартоўцы і тыя, каму яны шмат у чым абавязаныя сваім поспехам - трэнеры і педагогі. Гарадзеншчына заняла III месца ў Беларусі пасля Менска і Менскай вобласці па колькасці ўзнагародаў. Палова з 21 алімпійца, якія прадстаўлялі ў Сіднэі нашу вобласць, занялі месцы не ніжэй за 8-ае. Першыя ўзнагароды ад аблвыканкама - ганаровыя граматы, канверты з грашыма, на якія, як запэўніў А.Дубко, «і мужчына вечар добра пагуляе», атрымалі выхаванцы гарадзенскага спорту лёгкаатлетка Яніна Карольчык ды стралок Ігар Басінскі.

Поспех гарадзенскіх паралімпійцаў таксама быў ацэнены на «выдатна». З Алімпіяды сярод спартоўцаў-інвалідаў гарадзенская каманда прывезла ажно 5 медалёў. Веласіпедыст Аляксандр Данілін заваяваў два залатыя медалі, лёгкаатлет Віктар Хілімончык узнагароджаны срэбраным і бронзавымі медалямі, Аляксандру Трыпуцю (кіданне кап'я) дасталося «срэбра».

Усім пераможцам падчас прыёму былі ўручаны ўзнагароды ад адміністрацыі горада і вобласці - прэміі і прызы (тэлевізары, халадзільнікі, музычныя цэнтры ды іншае). Не забыліся і на трэнераў ды спартовае кіраўніцтва.

«Ганаровы залаты медаль» дастаўся і гарадзенскаму губернатару (менавіта такім чынам спадара Дубко называлі ўдзельнікі сустрэчы) у гонар дня ягоных народзінаў.

Па завяршэнні віншаванняў і ўшанаванняў спартоўцаў запрасілі на святочную вячэру ў «Беласток».

**А.С.**

# Вызначым чалавека стагоддзя!

**У сувязі з заканчэннем XX стагоддзя ва ўсім свеце выбіраюць самых славутых асобаў, вызначаюць іх ролю ў лёсах народаў, краінаў, уплыў на падзеі сусветнай гісторыі. Ва ўсім свеце, але не на Беларусі. Афіцыёз не зацікаўлены не толькі ў папулярызацыі знакамітых людзей, якія маюць беларускія карані - афіцыйная прапаганда баіцца прызнаць той факт, што нашая зямля ўвогуле нараджае выбітных грамадзянаў. Таму ПАГОНЯ дае жыццё новаму праекту: «Чалавек стагоддзя Гарадзеншчыны».**

На нашай зямлі жылі і цяпер жывуць славутыя людзі, якія сваімі ўчынкамі праславілі Гарадзеншчыну і Беларусь. У нас вельмі спрыяльны для развіцця асобы клімат - не столькі з пункту гледжання надвор'я і тэмпературы паветра, колькі з прычыны размяшчэння Гарадзеншчыны на межах разнастайных культураў і генаў розных народаў. З маленства ўраджэнцы нашай зямлі ўсмоктваюць такія жыццёвыя сілы, якія дазваляюць ім у самых неспрыяльных умовах выяўляць сябе і зацвярджаць у свеце менавіта сваё (і нашае агульнае) бачанне сэнсу жыцця і месца ў ім чалавека. Нават у чужым асяроддзі іншых народаў і культураў, нашыя землякі, дзякуючы прыродным вартасцям і працаздольнасці, якія ў нас у крыві, у кароткі тэрмін робіцца значнымі асобамі, з усёй шчырасцю служаць тым народам, якія далі прытулак у час нягодаў.

Словам, **ПАГОНЯ** абвяшчае конкурс **«Чалавек стагоддзя Гарадзеншчыны»**. Прымаюцца любыя заяўкі ад нашых чытачоў. Сталыя аўтары газеты таксама прымуць чынны ўдзел у вызначэнні Чалавека стагоддзя. Сваімі ацэнкамі падзеляцца нашыя эксперты - вядомыя на Гарадзеншчыне дзеячы навукі і культуры.

Нам, землякам Давыда Гарадзенскага і Вітаўта Вялікага, Кастуся Каліноўскага і Валерыя Урублеўскага, ёсць з каго выбіраць Чалавека стагоддзя. Дастаткова прыгадаць вядомых палітыкаў, літаратараў, бізнесоўцаў і адміністратараў, спартоўцаў, афіцэраў, навукоўцаў. Пішыце - не забудзьцеся абгрунтаваць сваё меркаванне - нам ёсць кім ганарыцца, каго ўсхваляць, бо інакш нам па-ранейшаму будуць навязваць суворавых ды разнастайных карнікаў з партыі будаўнікоў імперыі.

Чакаем вашых лістоў!



# Дзевяць плюс адзін



**Першыя дзевяць пытанняў з'яўляюцца своеасаблівым тэстам на ўзровень вашай эрудыцыі. Правільныя адказы на іх змешчаныя ніжэй. На дзесятае пытане конкурсу трэба адказаць пісьмова на адрас рэдакцыі (на паштоўках ці канвертах пазначыць - «9+1»). Сярод лістоў ды паштовак з правільнымі адказамі будзе праведзена лёсаванне, якое і вызначыць, хто ж стане пераможцам і атрымае прыз ад рэдакцыі нашай газеты.**

**1. Старажытнакітайская варажба І-Цзін, пры якой калісь выкарыстоўвалі панцыры чарапахаў, зараз ажыццяўляецца з дапамогай...**

а) трыснягу;
б) тысячалісніку;
в) чароту.

**2. Гэтая манета чаканіцца з 1489 года. З 1917-га выпускаецца толькі для продажу на міжнародных рынках золата. З 1952 годзе на ёй - выява галавы Лізаветы II. Як называецца гэтая манета?**

а) імперыял;
б) саверэн;
в) афінаж.

**3. Якому народу належаць інструменты: дайра, зурна, дзіпліпіта?**

а) узбекам;
б) таджыкам;
в) грузінам.

**4. Сярод вадаплаўных самыя даўгавечныя - качкі-краквы, якія жывуць...**

а) 40-50 гадоў;
б) 50-100 гадоў;
в) 60-70 гадоў.

**5. У аднаго з самых скандальна вядомых галівудскіх акцёраў, Мікі Рурка, на левым плячы - галава ціра з кітайскімі іерогліфамі, на правым біцэпсе -...**

а) нічога;
б) сімвал Ірландскай Рэспубліканскай Арміі;
в) чэрап.

**6. Адпаведна статыстыцы, еўрапейскія жанчыны чытаюць 26 хвілінаў у дзень. Мужчыны прысвячаюць гэтаму занятку...**

а) 39 хвілінаў;
б) 24 хвіліны;
в) 45 хвілінаў.

**7. У свой час у Італіі маладым да вяселля...**

а) часам не дазвалялі нават бачыцца;
б) дазвалялася жыць разам у хаце маладога;
в) дазвалялася права першай дашлюбнай ночы.

**8. Які кінаактор быў пахаваны ў плашчы, у якім выконваў ролю Дракулы?**

а) Фрэнсіс Варні;
б) Джонатан Харкер;
в) Бэла Лугозі.

**9. Таўшчыня лёду ў большасці ледавікоў...**

а) ад 200 да 400 метраў;
б) ад 100 да 200 метраў;
в) ад 300 да 500 метраў.

**Правільныя адказы:** 1б, 2б, 3в, 4б, 5в, 6а, 7а, 8в, 9а

**Дзевяць** правільных адказаў - выдатна, **7-8** - вельмі добра, **5-6** - добра, **3-4** - здавальняюча, **менш як 3** - у Вас ёсць над чым папрацаваць.

**10. Царкоўныя ўлады прызналі «500 палётаў» сястры Марыі з Агрэды ў Мексіку сапраўдным дзівам. Ёй пашанцавала. А вось партугальскаму гандляру з Гоа ў Індыі - зусім наадварот. Патлумачце, чаму.**

Адказ на дзесятае пытанне папярэдняга конкурсу (гл. ПАГОНЮ N29 ад 10 жніўня г.г.) павінен быў гучаць наступным чынам. У 1897 годзе рагатая жаба па мянушцы «Старына Рип» была замуравана ў сцяну новага будынка ў Істландзе (штат Тэхас). Пры зносе збудавання ў 1928 годзе сышлося шмат назіральнікаў, якія жадалі высветліць, ці выжыла жаба. Яна сапраўды выжыла, але праз год памерла. Відаць, нервы здалі - ёй жа давялося наведаць Белы дом і пазнаёміцца з тагачасным амерыканскім прэзідэнтам.

ЗДАРЭННІ

# Напад на пенсіянерку

**У панядзелак у Лідзе быў здзейснены разбойны напад на пенсіянерку. Злачынца апазнаны і знаходзіцца ў вышуку.**

А 16-й гадзіне ў кватэру пазванілі. Калі гаспадыня адчыніла дзьверы, невядомы ў масцы з капронавых панчохаў пырснуў газам з балёнчыка жанчыне ў вочы. Затым, адштурхнуўшы пацярпелую, скраў у яе 400 даляраў, 20 марак і 50 літаў.

Сьледчыя высветлілі, што рабаўніком быў лідчук, слесар ААТ «Лакафарба». Злачынца хаваецца.

**Юлія Дарашкевіч**

# Вітрына - ахвяра адчаю

**У мінулую суботу каля 20.30 інтэлігентны мужчына моцным ударам нагі выбіў вітрыннае шкло прамтаварнай крамы гандлёвага комплексу «Універсам», які знаходзіцца ў гарадзенскім мікрараёне Фарты.**

Дагэтуль «герой» разам з субяседнікамі спакойна цешыўся піўком у тамтэйшым бары да закрыцця самой «гандэльні». Былы музыкант, а зараз рынкавы прадпрымальнік, ён прызнаўся, што страшэнна прыгнечаны цяперашняй сацыяльна-палітычнай сітуацыяй у краіне, але не ведае, як выказаць сваё абурэнне. Таму ў момант адчаю і «высадзіў» шкло. Выбух вітрыны спарадзіў невялікую паніку каля кругласутачнай крамы, бо нагадваў выбух гранаты. Падчас замяшальніцтва і бабскага віскату міліцыянты, якія патрулююць гэтае вядомае ў горадзе пажыўнае месца, адразу не з'арыентаваліся, што адбылося, пакуль...інтэлігентны вінаваўца сам добраахвотна не падышоў да іх і прызнаўся ва ўчыненым.

**Людвік Сарока**

# Купіце «Чорную смерць»

**Нягледзячы на забарону продажу петардаў ды іншых выбуховых «забавак», набыць іх на гарадзенскіх рынках няма праблемаў. Наступствы такога вось «выбуховага гандлю» выяўляюцца сёння ў сапраўднай кананадзе ў дварах дамоў.**

Кошт петарды на рынку вагаецца сёння ад 15 да 2 000 рублёў і залежыць ад эфекту, які гэтыя «цацкі» выклікаюць. Чым больш шуму - тым большы кошт. «Чорная смерць», «Пчолкі», «Ракеткі», «Салют» - вось няпоўны спіс таго, што могуць набыць гарадзенскія «піратэхнікі».

У шпіталі хуткай дапамогі нам паведамілі, што было шмат выпадкаў траўмавання людзей у выніку выбуху петардаў. Пры гэтым заўважылі: «Трэба чакаць Новага года. Вось тады»...

**Вольга Камягіна**

На мінулым тыдні выйшаў двухсоты пааасобнік газеты «Милицейский вестник». Рэдакцыя ПАГОНІ віншуе калег і зычыць ім вытрымліваць раўнавагу паміж навінамі і ахоўнымі функцыямі. Мы сочым за вашай творчасцю, шукаем натхнення ў вашых матэрыялах. Таксама выказваем падзяку за супрацоўніцтва аўтарам газеты – работнікам прэс-групы УУС.

# Грошы ці жыццё

**Два дзёрзкія злачынствы былі ўчыненыя напрыканцы мінулага тыдня ў Гродне. У абодвух выпадках пад пагрозай былі жыцці людзей.**

7 лістапада жыхару Гродна патэлефанавалі невядомыя і запатрабавалі ў яго пяць тысяч даляраў. У іншым выпадку яны пагражалі забіць яго 14-гадовую дачку. Бацька праз 15 хвілінаў звярнуўся ў міліцыю і ўжо праз дзве гадзіны ля магазіна «Цэнтральны» пры перадачы грошай злачынцы былі затрыманы супрацоўнікамі аддзялення крымінальнага вышуку Ленінскага РАУС Гродна. Вымагальнікамі аказаліся чацвёра вучняў з горада Слоніма, 15-16-гадовых хлопцы.

Супраць іх распачата крымінальная справа за вымагальніцтва, што пагражае пазбаўленнем волі на тэрмін ад двух да чатырох гадоў альбо папраўчымі работамі на тэрмін ад аднаго да двух гадоў.

Двума днямі пазней у горадзе быў учынены дзёрзкі разбойны напад на кватэру мясцовага жыхара. Увечары ў аддзяленне міліцыі «Дзевятоўка» звярнуўся мужчына, які заявіў, што ў кватэру па вуліцы Горкага, дзе знаходзіліся ягоны сын, а таксама грамадзянін Лівана, які вучыцца на падрыхтоўчым факультэце Гарадзенскага медуніверсітэта і ягоны брат, увараліся трое людзей у масках з капронавых панчохаў. Злачынцы пагражалі нажом, збілі драўлянай палкай прысутных у кватэры, скралі кампакт-плэер «Sony», 20 кампакт-дыскаў, 35 тысяч беларускіх рублёў, скураную куртку і ўцяклі.

**Ася Куніцкая**

# Гараскоп

♈ **Баран (21.03-20.04).** На нейкі час пакіньце ў спакоі каханага чалавека і скіруйце сваю актыўнасць у дзелавую сферу.

♉ **Бык (21.04-20.05).** Вам пажадана было б пазбегнуць канфліктаў з начальствам і з большай спагадай ставіцца да сваякоў.

♊ **Блізняты (21.05-21.06).** Стрыманасць у пытаннях, звязаных з фінансамі, дапаможа Вам раскрыць усе свае таленты.

♋ **Рак (22.06-22.07).** Поспех на працы будзе цесна звязаны з Вашымі сямейнымі ўзаемаадносінамі: складанасці ў асабістым жыцці адгукнуцца праблемамі ў справах.

♌ **Леў (23.07-23.08).** Не варта спрачацца з калегамі ды сварыцца з партнёрамі. Займіцеся лепей творчасцю і самаадукацыяй.

♍ **Панна (24.08-23.09).** Хатнія справы і ўсё, што датычыць нерухомай маёмасці, з поспехам рэалізуецца раней, чым Вы меркавалі.

♎ **Шалі (24.09-23.10).** Пастрабуйце не адкладаць важныя справы на потым - не да гэтага будзе. Час акурат для рамонту ў хаце.

♏ **Скарпіён (24.10-22.11).** Будзьце больш уважлівымі з грашыма і дакументамі, асабліва на працы. Узрадуйце блізкіх увагай і добрым настроем.

♐ **Стралец (23.11-21.12).** Вялікага значэння часовым фінансавым праблемам надаваць не варта. Прыемныя нечаканасці - у сераду.

♑ **Казярог (22.12-20.01).** Вас крыху насцярожыць тое, што ўсе сустрэчы будуць выніковымі, каханне - узаемным, прыбытак - рэальным. Трэба спадзявацца, усё гэта надоўга.

♒ **Вадалей (21.01-19.02).** Хутка надарыцца ўдалая дзелавая паездка. Не канфліктуйце ні з кім.

♓ **Рыбы (20.02-20.03).** Нябдага было б заняцца генеральнай уборкай у хаце. Уважлівей стаўцеся да дзяцей.

ПАГОНЯ
Заснавальнік: культурна-асветніцкі фонд "Бацькаўшчына"

Адрас рэдакцыі: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11. Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96. E-mail: pagonia@irex.minsk.by
Падпісны індэкс: 63124.

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскім абласной унітарным паліграфічным прадпрыемстве «Гродзенская друкарня» Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4.
Замова 3503 Наклад 7 250
Нумар падпісаны да друку ў 16.00 15.11.2000 г.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць пагляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае пададзеным рэдакцыяй дыяпазітывам.
Аб'ём - два ўмоўныя друкарскія аркушы.

Галоўны рэдактар Мікола Маркевіч

Камп'ютарны набор: Аксана Бурдзюк, камп'ютарная вёрстка: Аляксей Салей